Przesyłka opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 25 гр.

№ 5 Вільня, 15 Лістапада 1931 г. Год I

# ГОЛАС ПРАЎДЫ

ПАЛІТЫЧНАЯ, ГРАМАДЗКАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ:
ВІЛЬНЯ, Бэліны 40—4. (Wilno, ul. Beliny 40 m. 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 1 г. дня.

„ГОЛАС ПРАЎДЫ" каштуе на год—6 зл. на паўгода 4 зл. на 3 мес.—1 зл. 50 гр., на 1 м.—50 гр

## Будуюць беларускую культуру

У апошнім нумары нашай газэты мы падалі зусім праверaную вестку пра прычыну сьмерці Старшыні Беларускай Акадэміі Навук праф. Ігнатоўскага.

Аказалася, што ён не пакончыў самагубствам а згінуў ад кулі чакіста Кагановіча ў лёхах тае сапраўднае бойні, якая мае вульгарна-скарочаны назоў „Чрэзвычайкі".

Краіна дыктатуры кампартыі з яе чырвонымі катамі — ужо даўно прасьмердла ад нявіннае крыві, якая праліваецца там на хвалу камуністычнае „культуры".

Гэтай крыві, якая была выліта ад сотняў тысяч а можа і мільёнаў нявінных людзей, аказалася мала.

Прыпатрэбілася яшчэ адна ахвяра і ёю стаўся ніхто іншы як сам старшыня Беларускай Акадэміі Навук, які разам са сваімі таварышамі паверыў камуністам у іх салодкія словы адносна беларускай культуры і нацыянальнага адраджэньня нашага народу.

Ня толькі паверыў ім, але перайшоў навет у іх рады, пакінуўшы тое сацыялістычнае серадовішча, якое дало яму першапачатковае грамадзкае ўзгадаваньне...

У тым новым серадовішчы, дзе ён апынуўся, аказалася аднак, што ня можа быць мейсца для такіх людзей, якія не запамінаюць пра беларускую справу.

І яго ня стала...

У ціхі скрытабойчы спосаб яго вывелі „у расход", распушчаючы правакацыйную вестку пра „самагубства".

У чырвоных катаў не хапіла нават адвагі сказаць праўду, тую жудасную праўду, сьведкамі якой былі адны толькі сьцены Менскай катоўні.

А не сказалі яе толькі дзеля тае прычыны, што баяліся каб не абурылася беларускае грамадзянства, баяліся страціць апінію абаронцаў беларускай культуры, асабліва тут, на нашых землях, дзе яшчэ найбольш цёмная і неасьвечаная частка грамадзянства добра не пазнала сваіх „прыяцеляў".

Але ня ўсё на сьвеце можна ўкрыць...

Мы добра ведаем цяпер ня толькі пра тое як будуецца ў Саветах сацыялізм, але даведаліся і пра пасьпехі беларускай культуры там, дзе ўся беларуская інтэлігенцыя пасаджана за вастрожныя краты, дзе чэкіст Кагановіч валачэ Старшыню Белар. Акадэміі навук у падвал і развальвае яму чэрап.

Гэты факт сам гаворыць за сябе...

І трэба дайсьці да апошняй ступені ападленьня, каб лічачы сябе беларусам, зачыніць на ўсё гэта вочы і мала таго, скрыта, ці яўна памагаць камуністам у іх сатанінскай працы. Трэба быць запраўдным здраднікам свайго народу, каб разам з Кагановічам будаваць „беларускую культуру", як гэта робіць С. Рак-Міхайлоўскі са сваёю кумпаніяю, засеўшы з гэтым катам за адным сталом, як Сябры Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Б.С.С.Р.

За апошнія часы камуністы гістэрычна крычаць, што на ўсім сьвеце зананаваў „белы тэрор".

Гэтым крыкам яны хочуць адвярнуць увагу грамадзянства ад таго, што робіцца там, дзе быццам будуюць сацыялізм і дзе здолелі пабудаваць як след толькі людзкія бойні...

Праходзюць, аднак, часы захопленьня ўсім тым, што тварылася ў Саветах.

Ашукаць можна раз, але пражыць ашуканствам увесь век—рэдка ўдаецца...

Варварскае забойства праф. Ігнатоўскага і агульны тэрор проці беларускага руху павінен аканчальна давесьці да ацьверазеньня нашае грамадзянства.

**З гэтае пары пытаньне павінна быць пастаўлена выразна: з „імі",**

**або проці „іх“.**

**Сярэдзіны быць ня можа...**

Бо толькі той, хто ў тайны спосаб, прадаўшыся за грошы, узяўся памагаць „ім“—будзе займацца круцельствам і разводзіць некія туманныя тэорыі пра магчымасьці беларускага нацыянальнага адраджэньня пад кіраўніцтвам кампартыі.

Там, дзе чэкісты Кагановічы развальваюць чэрап Старшыні Бел. Акадэміі Навук— ня можа быць мейсца для ніякай беларускай культуры...

Гэта трэба памятаць усім тым, хто запраўды імкнецца да дабра Беларускага Народу і ня хоча браць прыкладу з тых людзей, каму нашая нацыянальная справа зьяўляецца толькі шырмаю.

# АГУЛЬНАЯ ПЕРАПІСЬ НАСЕЛЬНІЦТВА

9-га сьнежня адбудзецца ў цэлай Польшчы агульная перапісь насельніцтва. Кожны грамадзянін павінен добра сабе ўцяміць, як яна будзе адбывацца, нашто робіцца і якое мае значэньне.

Сьнежнявая перапісь насельніцтва дасьць абраз фактычнага стану люднасьці а 12 гадзіне ўночы з 8 на 9 сьнежня.

Робіцца перапісь насельніцтва дзеля таго, каб дзяржава магла ведаць колькі і якіх мае грамадзян, што яны робяць і як жывуць. Гэта ўсё патрэбна ёй дзеля таго, каб ведаць як кіраваць насельніцтвам, як і чым памагаць яму ў бядзе, якім чынам накладаць дзяржаўныя абавязкі і г. п.

Гэтым гаспадарства пазнае само сябе. Дзеля гэтага кожная цывілізованая дзяржава робіць, пераважна што 10 год, перапісь сваіх грамадзян і гэтым быццам мерае сваю фізычную сілу.

У Польшчы першая перапісь насельніцтва адбылася ў 1921 годзе. Яна аднак ня была належна сьціслай, бо ды яшчэ Польшча толькі што стала на ногі. Шмат яе грамадзян было за межамі гаспадарства, ня была абнята перапісяй Віленшчына і Сьлёнск і г. п.

Дзеля гэтага надходзячая перапісь для Польшчы ёсьць вельмі важнай і канечнай. Як вялікае значэньне мае перапісь, сьведчыць той факт, што ў Польшчы 81 прац законаў і распараджэньняў апіраюцца на лічбе насельніцтва. Таксама ад ліку насельніцтва залежыць падзел на вокругі, колькасьць пасloў у паасобных акругох, арганізацыя школьніцтва, пэнсыя бурмістраў, абавязкі самаўрадаў у кірунку грамадзкае апекі і г. п.

Надыходзячая перапісь пакажа колькі, хто і якою моваю гаворыць. Гэта дасьць магчымасьць дзяржаве справядліва стасаваць языковыя законы, урэгуляваць меншасьцёвае школьніцтва і г. п.

Нам беларусам гэтая перапісь таксама важная: яна пакажа колькі ёсьць нашых братоў, якія ня будуць чурацца сваей беларускай мовы. Ведама што ў анкеце перапісі будзе пытаньне: „mowa ojczysta“ — кожны, хто ў хаце гаворыць пабеларуску, або „папросту“, як кажуць цёмныя людзі—павінен не баючыся сьмела, казаць: мая айчыстая мова ёсьць беларуская.

Можа, часамі, здарыцца выпадак, што які неразумны шовіністычны выканаўца перапісі захоча ашукаць сваю польскую дзяржаву, нагаварываючы каб той, хто ў хаце гаворыць пабеларуску („папросту“) называў сваю бацькаўску мову расейскай або польскай—такому сьмела трэба сказаць: не ашуківай пан сваей дзяржавы і не рабі ёй гэтым крыўды. Прадстаўленьне факту ня так, як ён ёсьць, ня толькі дзяржаве ня прынясе карысьці, але ўвядзе яе ў блуд і будзе шкодным, бо кіруючыя колы гаспадарства, маючы нясьціслыя дадзеныя, могуць выдаваць распараджэньні, ўводзячыя нездаволеньне ў грамадзянстве.

# У 11 угодкі Слуцкага паўстаньня

Мінае ўжо 11 гадоў, калі беларускі загнаны народ, прыпомніўшы часы 1863 году і свайго тагачаснага духовага правадыра Кастуся Каліноўскага—падняў аружную барацьбу проціў Маскоўскай навалы за свае нацыянальныя правы і гэтым паказаў усяму сьвету, штс і ён ня спаў у час усясьветнай завярухі.

У лістападзе 1920 году, калі Случчыну пакінула польская армія, за якой наступалі бальшавіцкія горды, каб акупаваць нашую беларускую зямлю — беларускае грамадзянства Случчыны пачало арганізавацца, каб бараніць свае загоны ад маскоўскага чырвонага ярма.

Дзеля гэтага, па ініцыятыве беларускага нацыянальнага камітэту быў склікапы з 14 на 15 лістапада 1920 году зьезд Случчыны,

на які прыехало 107 дэлегатаў з розных мястэчак і вёсак.

Гэны зьезд пастанавіў, што Случчына, будучы апушчанай праз польскую армію, павінна быць незалежнай і ўсімі сіламі бараніцца ад наступаючай бальшавіцкай навалы. Дзеля гэтых мэтаў была выбрана Зьездам Рада Случчыны, якой даручана бараніць сваю зямлю збройна і палітычна.

Рада паслала ноту Савету Народных Камісараў, у якой пратэставала проціў акупацыі бальшавікамі Случчыны, апіраючыся на пастанове зьезду Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з 25 сакавіка 1918 году.

Бальшавікі на ноту не адказалі і пачалі занімаць тэрыторыю Случчыны.

У кожнай вёсцы іх спатыкалі стрэламі беларускія партызаны.

Бальшавікі, ў кожнай занятай імі вёсцы, няміласэрна растрэлівалі першага лепшага цапаўшага ім у рукі хлапца, падозрываючы ў кожным беларускага партызана.

Рада Случчыны вызначыла галоўнае камандаваньне, якое-бы прынялася да фармаваньня збройных аддзелаў. Дзеля таго, што ў Слуцку не пасьпелі яшчэ зарганізавацца большыя аддзелы, а бальшавікі ўжо сюды прыбліжаліся — галоўнае камандаваньне дае загад пакінуць Слуцак і ісьці па фармаваньне ў мястэчка Семежаў.

Тут фармуецца першы Слуцкі полк пад камандай падпалкоўніка Гаўрыловіча, і зараз-жа пачынае ваенныя апэрацыі.

У гэты самы час фармуецца, таксама ў Семежаве Грозаўскі полк, у які паступілі амаль ня ўсе хлопцы з мястэчка Грозава. Камандзерам гэтага палка бы капітан Семянюк.

Слуцкі і Грозаўскі полк састаўлялі Слуцкую брыгаду, камандзірам якой быў спачатку капітан Анцыповіч, а пасьля капітан Сокал-Кутылоўскі.

27 лістапада пачаліся сутычкі арганізаваных беларускіх палкоў з бальшавікамі.

Беларускія жаўнеры, пэміма што ня ўсе мелі зброю, аказалі задзіўляючае мужства. Пасьля 27 лістапада паўстанцамі былі адабраны ад бальшавікоў мястэчка Копыль, Цімкавічы і Вызну. Пры гэтым беларускія жаўнеры аказалі рэдка спатыканае ў гісторыі мужства. Яны ішлі на добра ўзброенага ворага амаль што з голымі рукамі, бо на цэлыя два палкі было спачатку ўсяго тольκі 500 (пяцьсот) стрэльбаў, якія засталіся ад слуцкай міліцыі.

Больш-менш адна чацьвёртая часьць паўстанцаў мела стрэльбы; рэшта ішла з чым папала — сякера, нож, а то і кавалак завостранага шворына, набітага на доўгую палку, імітуючую стрэльбу.

Бальшавікі, разьбіўшы ген. Балаховіча, каторы ішоў у кірунку Мозыр—Магілёў, усе сілы скіравалі на беларускіх паўстанцаў і змусілі іх пакінуць свае родныя гоні і адступаць на захад.

На польскай тэрыторыі яны былі абезаружаны і інтэрнаваны ў абозы, а пасьля распушчачы.

Слуцкае паўстаньне не магло, што праўда, мець пэўнасьці сваей перамогі; гэта быў геройскі ўздым беларускага падняволенага народу, уздым якіх ня было за шмат у нашым народзе. Слуцкае паўстаньне мае вялікае гістарычнае значэньне. Яно паказала ўсяму сьвету, што і беларусы могуць і патрапяць бараніць аружжам свае слушныя прыродныя дамаганьні.

Гэтае паўстаньне павінна быць вырыта залатымі літэрамі на сэрцы кожнага беларуса. Памяць аб ім павінна застацца ў нас назаўсёды.

*Б. паўстанец.*

# З савецкага жыцьця

## БУНТ У КОНЦЭНТРАЦЫЙНЫМ ЛАГЕРЫ

26 кастрычніка г. г. у Красноўскім Концэнтрацыйным лагеры (Крайскі вокруг) здарыўся бунт сялян, якія туды былі пасаджаны савецкімі ўладамі.

Сяляне абязброілі стражу і адабралі ад яе аружжа, пасьля чаго ў колькасьці 150 чалавек скіраваліся ў бок польскае граніцы.

Раніцаю 27 кастрычніка савецкія ўлады былі паведамлены пра бунт і адразу пачалося прасьледаваньне ўцёкшых. Граніцу ад Дрыссы аж да Радашковіч савецкія ўлады зачынілі, пасьля чаго ў працягу дня пералавілі амаль усіх, расстраляўшы правадыроў.

## КАМУНІСТЫЧНАЕ АСАДНІЦТВА Ў САВ. БЕЛАРУСІ

У зьвязку з тым, што беларускае сялянства вельмі варожа настроена да камуністычнае ўлады, гэтая апошняя, як вядома, масамі высяляе беларусоў у Салоўкі і Сыбір, а на іх мейсца прывозіць „прававерных“ камуністаў і пасяляе пераважна ў прыгранічных раёнах.

Асабліва хутка пачало праводзіцца стварэньне гэтых камуністычных апорных пунктаў у апошнія 2-3 месяцы, пераважна ў наступных раёнах: Валынец—Ветрыно, Антановічы, Заслаў—Койданаў, Лагойск і інш.

Да гэтага часу пераселена больш 10.000 камуністаў асаднікаў, якім даручана памагаць уладам заганяць беларускае сялянства ў камуну і быць на палажэньні „авангарду чырвоных камунараў, знаходзючыся пад бокам буржуазнай Польшчы.“

Вось ў якія абцугі папалі сялянскія масы, дзякуючы толькі таму, што ў свой час паверылі камуністам і пазволілі ім захапіць у свае рукі дзяржаўную ўладу.

# Рак Міхайлоўскі і Ко ў ролі душыцеляў беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху

Згодна з апошнімі весткамі, атрыманымі з Савецкай Беларусі, там зноў „прававерныя“ ка-

муністы паднялі крыжовы паход проці нацыянальнага ўхілу ў камуністычнай партыі.

Выключаны цэлы рад выдатных сяброў партыі, якіх абвінавачваюць у нацыянальна-беларускіх грахох.

Што камуністы грызуцца паміж сабою і займаюцца ўзаемнаю „чысткаю"—гэта нас вельмі мала абыходзіць. Але больш цікавым для нас зьяўляецца тое становішча, якое занялі ў Савецкай Беларусі ўцёкшыя правадыры Грамады на чале з Рак Міхайлоўскім.

Перадусім Рак Міхайлоўскі, Бурсэвіч і Мятла за „асобныя заслугі" перад камуністычным урадам назначаны на адказныя пляцоўкі Сяброў Цэнтр. Выкан. Камітэту Беларускай ССР.

Там яны разам з Кагановічам, (які таксама назначаны ў Ц. Б. К і які ўласнаручна застрэліў Старш. Беларускай Акадэміі Навук) будуць тварыць беларускую культуру „камуністычную па зьместу і нацыянальную па форме". Разам з іншымі камуністамі будуць душыць беларускі рух, будуць падпісываць дэкрэты аб умацаваньні прыгоннага ладу на савецкай вёсцы—словам будуць праробляць усё тое, проці чаго вядзе барацьбу працоўнае сялянства і нацыянальна—сьведамая частка беларускага грамадзянства.

Пертварэньне гэтых людзей з „палітычных эмігрантаў", якімі яны спачатку сябе рэкамэндавалі, у высокіх савецкіх урадоўцаў—вельмі характэрна...

Давер Савецкага ўраду яны зусім апраўдалі: як падаюць газэты, за апошнія часы на Сав. Беларусі, арыштавана больш 200 чалавек беларусаў, якіх абвінавачваюць у контр-рэвалюцыі.

Гэтыя арышты зьявіліся вынікам „працы" грамадоўскіх правадыроў, якія ў гэты спосаб распачалі сваю „нацыянальна—адраджэнскую" дзейнасьць, аб чым так голасна крычалі ў Польшчы. Асаблівую энэргію ў гэтым кірунку выказвае, як сябра Камуністычнае партыі, Рак-Міхайлоўскі.

Ад гэтага падвойнага рэнэгата можна было спадзявацца ўсяго...

# Што чуваць на сьвеце?

## Сойм і Сэнат

Распараджэньнем п. Прэзыдэнта ад 9 лістапада г. г. сэсія Сойму і Сэнату перарвана на 30 дзён.

Гэтая пярэрва, як тлумачаць газэты, выклікана неабходнасьцю для ўлады правесьці ў жыцьцё тыя законы, якія былі прыняты Соймам у апошнія часы.

## Выбары ў Англіі

У канцы кастрычніка ў Англіі адбыліся выбары ў парлямэнт, якія закончыліся зусім неспадзяванымі вынікамі.

У гэтых выбарах перамогу атрымалі консэрватары, нанёсшы рабочым, як прызнаецца сам Гэндэрсон (адзін з правадыроў рабочай партыі) рашучы ўдар.

Такіх вынікаў не спадзяваліся нават самі пераможцы—консэрватары.

Усяго было пададзена больш 21 мільёнаў галасоў, з якіх прыпадае: на кансэрватараў—каля 12 мільёнаў, на правых лібэралаў каля 2, а Макданальда 338 517, на рабочую партыю 6.611.167 чал. Падчас выбараў дашчэнтна праваліліся камуністы, атрымаўшы ўсяго толькі 1 мандат.

Ангельскі парлямэнт лічыць 615 паслоў, з якіх да апошніх выбараў аж 290 належала да соцыялістычна-работніцкай партыі, крыху меней мелі консэрватары і каля 30 паслоў лібэралы.

Дзякуючы апошнім выбарам палітычны выгляд ангельскага парлямэнту зрабіўся зусім іншым.

Цяпер соцыялісты маюць усяго толькі 30 паслоў, а кансэрватары аж 460.

У зьвязку з такою перагрупіроўкаю палітычных сілаў, спадзяюцца рэскай перамены ангельскай, як унутранай так і замежнай палітыкі. Ці-

# Трагэдыя беларускай сярэдняй школы

Мы ўжо пісалі пра тыя галоўныя прычыны, якія развалілі нашае сярэдняе школьніцтва. Гэтае пытаньне зьяўляецца настолькі важным, што над ім варта затрымацца яшчэ, каб высьвятліць яго ўсебакова.

Няўдольнае і праступнае з грамадзкага пункту гледжаньня кіраўніцтва нашымі школамі давя о да тых вынікаў, якія мы маем у сучасную мінуту.

А вынікі гэтыя вельмі сумныя.

Перадусім — мы страцілі ў працягу апошніх гадоў аж 2 гімназіі — гэта значыць роўна палову таго, што мелі. І страцілі толькі таму, што не змаглі паставіць як Радашковіцкую так і Клецкую гімназію на тым роўні, на якім яны маглі-б утрымацца пры сучасных умовах жыцьця.

Запраўды трудна ўтрымаць і бараніць школы, даваўшыя нам не нацыянальна-ўзгадаваны элемэнт, які так патрэбны для беларускай справы, а ў большасьці выпадкаў выкідаўшых людзей варожых нам па сваёй ідэолёгіі.

Большасьць выхаванкаў зачыненых гімназіяў, як ні сумна ў гэтым прызнацца, апынулася ў радох тых, хто стаіць цяпер па другой старане „барыкады", хто вядзе заўзятую барацьбу з нашаю нацыянальнаю ідэяю.

Але ня ў гэтым справа і ня гэта зьяўляецца тэмаю сучаснага нашага разважаньня.

Справа з нашым школьніцтвам стаіць куды горэй, чым нам здаецца на першы пагляд: Калі мы параўнаем колькасьць вучняў у нашых гімназіях, якая была некалькі гадоў таму назад з тым, што мы маем цяпер—то пабачым што колькасьць іх з году на год не павялічваецца, а зьмяншаецца.

Былі часы, калі напр. Віленская Гімназія мела больш 300 вучняў, але з кожным годам колькасьць іх пачала зьмяншацца з тым, каб у гэтым школьным годзе дайсьці нешта да — 130 чал. на ўсе 8 клясаў.

Тое самае наглядаецца і ў Наваградзкай гімназіі, дзе цяпер ня гледзючы на паступленьне каля 20 чалавек з зачыненай Клецкай гімназіі—маем усяго толькі каля 140 вучняў.

Дзе шукаць прычыны гэтага сумнага зьявішча?

Бязумоўна толькі ў тым няўдольным кіраўніцтве нашымі школамі, якое ўзялося за гэтую справу і якое нясе адказнасьць перад грамадзянствам за іх лёс. Пра тое, што праробляласе з нашымі школамі палітычнымі прахадзімцамі і рознымі прадажнымі афэрыстамі мы ўжо пісалі ў адным з папярэдніх нумароў газэты.

Ёсьць падставы цьвярдзіць, што гэтая разбураючая праца вялася бальшавіцкімі махерамі не па „наітію сьвятога Духа", а была добра імі прадумана і праводзілася плянова.

кава, між іншым, і тое, што Англія, дзе 80 прац. жыхарства належыць да работніцкае клясы, дзе каля 3 мільёнаў безработных, тая самая Англія, на якую пакладаў вялікія надзеі яшчэ К. Маркс, даводзючы што ў ёй першай будзе заведзены камуністычны лад—выбіраець у парлямэ т усяго толькі... аднаго камуніста!

І гэта ня гледзючы на тое, што Камінтэрн кінуў на апошнія выбары 'колясальныя грашовыя сродкі. Культурны ангельскі работмік, відаць добра пазнаўся—чаго варты камуністычныя абяцанкі.

## Забастоўкі сярод нямецкіх матросаў

У нямецкім гандлёвым флоце было некалькі выпадкаў бунту і забастовак матросаў, якіх разагітавалі савецкія камуністы, ў той час, калі нямецкія караблі стаялі ў Ленінградзе.

Зразумела, што гэтыя выпадкі ня будуць мець таго значэньня, якое-б ім хацелі даць камуністычныя агітатары. Матросаў аддаюць пад суд а на той выпадак, калі-б разрухі прынялі больш сурыёзны характар—падгатаваны самалёты (як напр. у Кільскім парту), якія змусяць матросаў падпарадкавацца існуючым у Нямеччыне ўладам.

Прыклад таго, калі самалёты падавілі бунт маракоў—мы маем у Чылі. Там эскадра самалётаў закідала бомбамі ваенныя караблі і гэтым, канчальна зьліквідавала камуністыч. паўстаньне

## Суд

26 кастрычніка г. г. у Варшаве распачаўся суд над 11 паслам з г. зв. Цэнтралеву, якіх абвінавачваюць у тым, што яны супольна падгатаўлялі дзяржаўны пераварот, мэтаю якога было скінуць пры дапамозе сілы сучасны ўрад. На лаве абвінавачаных заселі; Т. Лібэрман, А. Прагер, В. Вітас, Вл. Кернік і інш. Суд працягнецца некалькі тыдняў. Усіх сьведкаў будзе перaслухана аж 460 асобаў.

## Падарожа Францускага Прэмʼер-міністра Ляваля ў Злуч. Штаты Паўн. Амэрыкі

У канцы кастрычніка г. г. Францускі прэмʼер-міністр Ляваль адбыў падарожу ў Зл. Штаты, якой прыдаюць аграмаднае палітычнае значэньне.

Мэтаю гэтай падарожы было ўстанаўленьне палітычнага і эканамічнага „кантакту" паміж Францыяю і Амэрыкаю. Як падаюць газэты Ляваль у гутарках з Прэзыдэнтам Гуврам дайшоў да паразумленьня адносна адбудовы эканамічнай роўнавагі і ўзаемнага даверу, што зьяўляецца асабліва патрэбным у часы цяжкага эканамічнага крызісу, які перажывае ўвесь сьвет.

## На пярэдадні грозных падзеяў на Далёкім Усходзе

Дзякуючы інтрыгам Саветаў у Кітаі некалькі гадоў вядзецца хатняя вайна. У выніку гэтай вайны ў некаторых правінцыях запанавалі камуністы і наагул розныя бандыцкія элемэнты, якія пагражаюць інтарэсам некаторых дзяржаваў, асабліва Японіі.

У зьвязку з гэтым устанавіліся паміж Японіяю і Саветамі напружаныя адносіны, якія могуць выклікаць збройны канфлікт, а магчыма і вайну. Паводлуг апошніх савецкіх вестак расейскія эміграНты ўвайшлі ў паразумленьне з японцамі і быццам маюць намер захапіць Усходня - Кітайскую чыгунку.

---

Справа зводзіцца да таго, што камуністычным чыннікам залежала на тым, каб нашыя гімназіі як мага больш выкідвалі са сваіх муроў зьвіхнуўшагася элемэнту, г. зв. „выкаляенцаў"— і каб якнайменш канчала ў іх курс. Яны добра ведалі, што ўсякі вучань, атрымаўшы матуру і паступіўшы ў вышэйшую школу, — для іх „грамадзкай працы" страчаны амаль беспаваротна.

З гэтаю мэтаю ў мурох гімназіяў закладаліся кам. ячэйкі, рабіліся дэмонстрацыі і ўсё сводзілася да таго каб як мага балей вучняў праходзіла праз польскія вастрогі, гэтыя запраўдныя камуністычныя акадэміі.

З такой моладзі найлягчэй можна было вербаваць розных агітатараў, бо запраўды ёй нічога больш не заставалася, як ісьці ў „камуну" і за пару залатовак развозіць па вёсках камуністычныя праклямацыі.

Трэба сказаць праўду, што гэты плян камуністам зусім удаўся і мы маем падставы казаць, што нашыя гімназіі далі дзясяткі, а можа і сотні такіх „дзеячоў" якія і цяпер прыносяць усяму грамадзянству толькі шкоду.

У школьных справах рэй вадзілі такія гэршты, якія зусім выразна імкнуліся ператварыць нашыя гімназіі ў школы, пабудаваныя па савецкаму тыпу. Гэная пачка ўсім вядомых дзеячоў у свой час цынічна і голасна заяўляла, што „мы ня хочам урадовых этатаў і запамог, бо гэта зьвязала-б нам рукі."

Тых вучыцялёў, якія працівіліся „саветызацыі" нашых гімназіяў — стараліся ўсунуць ад працы. Дзякуючы толькі гэтай прычыне быў напр. ў 1924/25 школьным годзе выкінены з Віленскай гімназіі вучыцель А. Данілевіч.

І сталася так што беларускія гімназіі, дзякуючы камуністычным дабрадзеям, ператварыліся ў нешта такое, што мела вельмі мала супольнага з навуковымі і нацыянальна-выхаваўчымі мэтамі.

Нашая моладзь прыносілася ў ахвяру ненасытнай прагавітасьці розных афэрыстаў, якія рабілі на людзкім няшчасьці „інтэрэс" і набівалі свае кішэні далярамі, складалі іх у банкі, будавалі сабе вілі, куплялі дамы, адпачывалі на савецкіх курортах і г. д.

Частка з гэтых нягоднікаў уцякла ў Саветы, частка сядзіць у польскіх вастрогах, а частка і да сёньняшняга дня чамусьці спацыруе на волі і далей мяціць ваду, лоўлючы ў ёй рыбу...

Навет тая чыстка, якая ў свой час была праведзена напр. у Віленскай гімназіі, калі было выкінена з яе муроў каля сотні вучняў—прынясла карысьць толькі ком-партыі, бо павялічыла кадры зьвіхнуўшыхся і нездаволеных людзей, якім у большасьці выпадкаў нічога не заставалася рабіць як толькі ісьці ў парабкі да камуністычнае партыя

# РОЗНЫЯ ВЕСТКІ З КРАЮ

## БЯГУЦЬ НАВЕТ ДЗЕЦІ

З Савецкага пекла людзі што дня пераходзяць на гэты бок.

Бягуць навет дзеці.

Гэтак у канцы кастрычніка перайшлі граніцу на вучастку Загайна (Валожынскага пав.) два хлапчукі—браты Казлоўскія.

Адзін з уцякачоў лічыць 16 год, а другі ўсяго толькі 11.

Да апошніх часоў яны жылі ў колектыве Новы Двор Менскага вокругу.

Бацькі хлапчукоў савецкаю ўладаю высланы на Сыбір.

Жыцьцё ў калектыве настолькі цяжкое, што нічога больш не засталося, як адтуль уцякаць.

## ДОБРЫ ПРЫКЛАД

Агульны Камітэт апекі над вёскамі Віленскага ваяводзтва закончыў прапагандную акцыю адносна залажэньня фруктовых садоў на тэрыторыі Віленска-Троцкага павету. Гэтая акцыя была праведзена пад кіраўніцтвам фаховых сілаў з дзяржаўнае агароднiцкае школы ў Вільні і с-гасп. школы ў Букішках.

Усяго бясплатна засаджана 2,700 фруктовых дрэвак у 500 гаспадароў.

Акцыя гэтая спаткалася з вялікаю сымпатыяю мясцовага сялянства.

## Б. ПАСОЛ З КЛЮБУ ЗМАГАНЬНЕ Я. ГРЭЦКІ РАССЫЛАЕ СВАЕ „ПАРАДЫ“ СЯЛЯНСТВУ.

За апошнія часы Кам. партыя ўвяла новую моду: замест таго, каб самой падпісвацца пад адозвамі—яна карыстаецца сваімі агентамі з пасярод тое даволі спорай пачкі б. беларускіх паслоў якія ўцяклі з Польшчы. Цяпер яны седзячы на ўтрыманьні савецкага скарбу ў Менску, ці Гданску, час ад часу папісваюць „маніфэсты“, даючы ў іх „карысныя“ для сялянства парады.

Гэтакім чынам зноў пачалі распаўсюджвацца адозвы б. пасла Грэцкага, у якіх гэты апошні радзіць такія рэчы, за якія простым шляхам людзей кіруюць у вастрогі. Нашае грамадзянства ўжо даволі добра пазналася на „парадах“ розных ягамосьцяў, якія дарабіліся ў Саветах да кар'еры, загнаўшы ў вастрогі тысячы нашых сялян.

Мода на гэтых паноў ў нашых вёсках патроху прападае: людзі пачынаюць разумець тую „хітрую мэханіку“ і ашуканства, якімі яны займаліся на нашых землях і займаюцца і цяпер седзючы за—граніцаю.

# Каму на гэтым залежыць?

У мінулым тыдні ў Кракаве і Варшаве пачаліся непаразумленьні і бойкі паміж студэнтамі жыдамі і палякамі.

Гэтыя забурэньні вельмі сумным рэхам адбіліся і ў Вільні.

Тут 9 і 10 г. м. адбываліся між польскаю і жыдоўскаю моладзьдзю фармальныя бойкі, якія былі выкарыстаны камуністамі і наагул, рознымі цёмнымі элементамі.

Пад час вулічных бояк быў забіты адзін студэнт—паляк і шмат раненых.

Камуністам залежала на тым, каб „паглыбіць“ забурэньні, справакаваць цёмны элемент на пагромныя выступлені, а потым на ўвесь сьвет крычаць пра ўсё тое, аб чым яны любяць крычаць наагул. Дзякуючы іх удзелу гэтыя забурэньні, прынялі даволі востры характар, закончыўшыся крывавымі ахвярамі.

Паміж іншым вулічныя шумавіны паразьбівалі вокны ў некаторых магазынах.

Гэтакім чынам былі павыбіваны вокны ў Беларускай друкарні ім. Фр. Скарыны.

„Героі“, раскідаўшыя праваю рукою тое, што некалісь тварыла левая — аказаліся запраўднымі памоцнікамі ўсіх тых сілаў, якія імкнуцца да разбурэньня нашага нацыянальна-культурнага жыцьця.

Усе гэтыя факты не маглі прайсьці бясследна для нашых школаў.

Грамадзянства трацiла да іх веру,—у выніку чаго сыстэматычна зьмяншаецца колькасьць вучняў у беларускіх гімназіях, бо запраўды ня кожны бацька хацеў-бы бачыць той лёс, які можа спаткаць яго дзіця пасьля гэтакай „навукі“.

Разам з гэтым мы наглядаем іншае зьявішча — усіленьне расейскіх гімназіяў і ўсіленьне іх на кошт беларускага школьніцтва. Гімназія ў Берасьці мае цяпер больш 600 вучняў, ня гледзючы на высокую плату (60 зл. у месяц у 8 кл.). Справы гэтае гімназіі стаяць настолькі добра, што яна выбудавала за 80,000 зл. свой уласны будынак.

Віленская расейская гімназія лічыць каля 300 вучняў і гэтакім чынам усяго вучняў расейскіх гімназіяў на нашых землях мы маем да 900 чалавек, з якіх большая частка—беларусы, у той час як вучняў беларускіх гімназіяў налічваецца ўсяго толькі 270—280 чал. Трэба не запамінаць таго, што праз расейскія гімназіі праводзіцца моцная русыфікацыя нашай моладзі, якая скончыўшы іх аканчальна гіне для беларускай справы.

Вось гэтыя факты застаўляюць прызадумацца кожнага беларуса над прычынамі такога сумнага зьявішча, аб якім мала хто ведае.

Прычыны яго, як мы зазначылі вышэй, трэба шукаць у няўдольным кіраўніцтве нашымі школамі з боку тае часткі грамадзянства, якая дзякуючы сваёй зваротлівасьці і нясумленнасьці захапіла „манаполь“ на грамадзкія справы і зусім неапраўдала грамадзкага даверу, аканчальна збанкрутаваўшы разам з тымі бальшавіцкімі махерамі, на павадку якіх яна ішла.

Абавязкам нашага грамадзянства зьяўляецца ўратаваньне нашых школаў з яе моладзьдзю ад канчальнага ўпадку, яно павінна высвабадзіць іх ад тае бальшавіцкае павуціны, якою яны апутаны заняцца будаўніцтвам здаровых падставаў школьнага жыцьця.

На жаль, гэтаму стаіць на перашкодзе тая самая пачка хітрых „павукоў“ якая разваліла нашыя школы і якая і далей пляце каля іх павуціну, дзеючы з-за вугла і пры дапамозе падстаўных балванаў.

*Былы вучыцель*

# ЛІСТЫ З ВЁСКІ

СМАРГОНЬ Новасьці ў нас вельмі няцікаўныя: летам ня было ўраджаю; цяпер прыходзіць зіма, трэба плаціць падаткі, купляць газу, соль — а грошаў няма і зарабіць няма дзе, і няма чаго прадаць; калі каму і ўдаецца што небудзь завясьці на торг, дык там такую даюць цану, што проста страх.

Вось гэта першая нашая бяда. Другой бядой ёсьць наша нясьведамасьць. І гэта найгорш аслабляе нашае духовае здароўе. Як да нездаровага цела больш прыліпаюць розныя хваробы так і да нашай хворай душы, нацыянальна нясьведамай, лёгка прыліпае камуністычная пошасьць, якая разьбівае нашыя маладыя сілы і кідае шмат каго ў вастрогі. Усё гэта робіцца дзеля таго, што мы ня маем адпаведнай сільнай арганізацыі, якая-бы вяла процікамуністычную барацьбу, а другое, што няма ў нас кніжак, якія-б прасьвячалі людзей у гэтым кірунку.

У нас ходзіць шмат нейкіх прыблудаў, каторыя, выкарыстоўваючы нашую цемнату, нагаварываюць ісьці ў Саветы і бяруцца праводзіць праз граніцу за даволі вяліку аплату.

Гэтыя прыблуды кідаюць на граніцы сваіх цёмных кліентаў і ўцякаюць, аграбіўшы з апошняга гроша лёгкаверных, якіх тады ловіць прыгранічная паліцыя і саджае ў вастрогі. Вось і са Смаргонскай гміны пасаджана за гэта аж 25 асоб.

Браты апамятайцеся! не давайце свайго астатняга гроша ашуканцам—прыблудам і ня верце тым абяцанкам, якімі яны вас захопліваюць; запытайцеся ляпей тых людзей, якія пакаштаваўшы савецкай паншчыны паўцякалі сюды. Чытайце кніжкі і газэты там знойдзеце шмат разумнага і пазнаеце праўду; тады паміж намі будзе жыцьзгода, міласьць і сьведамасьць.

*Батрачок.*

## Грамадаўцы ўцяклі ў Саветы, пакінуўшы на памятку свае даўгі

Як ведама, большая частка правадыроў Грамады ўцякла ў Саветы, а разам з імі і іх бліжэйшыя памочнікі.

У межах Польшчы засталіся тыя з былых грамадаўцаў, якія не выявілі захопленьня да камуністычнага будаўніцтва ў Саветах. І вось як раз гэтыя, у большасьці сваёй зусім выразна адвярнуўшыся ад камуністаў—апынуліся ў вельмі прыкрым і разам з тым дзіўным становішчы. Трэба ведаць, што ў выніку працэсу Грамады на ўсіх засуджаных былі наложаны вялікія судовыя кошты, па некалькі сот злотых на кожнага.

Кошты гэтыя выплачваюцца згодна прысуду салідарна—гэта значыць іх трэба плаціць і за тых, якія паўцякалі ў Саветы.

За апошнія часы гэтыя кошты пачалі ўжо насьцягівацца судовымі каморнікамі.

Гэтакім чынам у канцы кастычніка зьявіўся судовы каморнік да гр. Акінчыца і зажадаў выплаты ні больш ні менш як 1990 зл. 35 гр. і прыступіў да опісі маемасьці. Ёсьць весткі, што і з іншымі б. грамадаўцамі прарабляецца тое самае.

На нашую думку выпадала-б каб адпаведныя чыннікі зьвярнулі на ўсю гэту справу ўвагу і запраўды палажылі ёй канец.

# Беларуская хроніка

### Віленская Беларуская Гімназія

Апошні сход Бацьк. К-ту пастанавіў (дзеля таго што ня ўсе справы былі разгледжаны) сабраццa не пазьней як праз 2 тыдні — гэта значыць прыблізна 18 кастрычніка. Прайшло ўжо больш месяцу, а сход, каторы павінен быў разгледзець шмат якіх спраў, чамусьці ня склікаецца. Дзіўна неяк усё гэта выглядае: падобна на тое, што нават новы склад прэзыдіюму пачынае баяцца каб бацькі не змаглі глыбей прыглядзецца да школьных спраў.

Пара-б ужо закінуць тыя мэтады „кіраўніцтва“, якія давялі нашыя школы да руіны..

### Бел. Выдавецкае Таварыства

Запраўды нейкія дзіўныя рэчы творацца ў Бел. Выдав. Т-ве.

У свой час кнігарня гэтага Т-ва мела вялікі запас беларускіх кніжак, які з часам „праядаўся“, а на паліцах кнігарні ўсё больш і больш павялічвалася пустое мейсца.

Цяпер, як вядома, кнігарня перададзена на прыватную ўласнасьць Іг. Мятлы.

Як гэта ўсё сталася?

Такое пытаньне задаюць сябры Выд. Т-ва.

Трэба зазначыць, што вось ужо амаль 2 гады як ня склікаўся агульны сход Т-ва і ўсімі справамі самаўласна распараджаецца Урад, кадэнцыя якого даўно ўжо акончылася.

Цікава яшчэ і тое, што ня ўсе сябры ўраду атрымоўваюць запросіны ад Старшыні на паседжаньне і гэтакім чынам усе справы вырашаюцца „сваімі людзьмі“.

### На чым гэта сумленьні?

На пачатку лістапада г. г. у Віленскім Акр-Судзе разглядалася справа б. вучня Радашковіцкай Белар. Гімназіі Арсеня Арлова, 19 гадовага хлапца, якога абвінавачвалі з арт. 102 ч. І К. К.

Як вынікае са справы, Арлоў 6 лістапада прошлага году быў арыштаваны каля м. Ілы з вядомымі адозвамі б. беларускіх паслоў Грэцкага і той кампаніі яго таварышоў, якая ўцякла разам з ім у Саветы.

На судзе выявілася, што яшчэ ў 1926 г., Арлоў, маючы ўсяго 13 год напежаў да г. зв. камсамолу і раскідваў пад кіраўніцтвам сваіх апякуноў камуністычную „бібулу“.

Суд, разгледзеўшы ўсе акалічнасьці гэтай сумнай справы, — прыгаварыў яго на 8 гадоў катаржнай турмы.

Так змарнавалася яшчэ адно маладое жыцьцё, дзякуючы нясумленнасьці тых беларускіх дзеячоў, якія развальвалі беларускія школы прыносячы яе моладзь у ахвяру сваяго кар'ерызма і хцівасьці да даляраў.

Сколькі такіх ахвяраў налічваецца сярод нашай вучнёўскай моладзі—знаюць пра гэта толькі суды і вастрогі...

### Чым яны хваляцца

Дзеячы з пад знаку „Беларускага Звону“ ніяк ня могуць апамятацца ад тае „перамогі“ якую яны атрымалі на выбарах Бацькаўскага Камітэту Віл. Бел Гімназіі, дзякуючы свайму спрыту і коль-

касьці тых „апякуноў“, якіх яны пазьбіралі каля Духава манастыра.

Цяпер яны вельмі разьвязла перад кімсьці хваляцца сваёй перамогаю і баламуцяць грамадзянства, даводзючы, што Акінчыц і Янка Станкевіч, маніліся ўвайсьці ў прэзыдіюм з мэтай „узрываньня“ гімназіі знутра.

Лепшым адказам на гэтую брахню зьяўляецца артыкул у нашай газэце. Трагэдыя беларускай школы“, з якога можна даведацца пра запраўдны стан нашага школьніцтва і між іншым, з якога можна зразумець тыя мэты, якія мелі некаторыя грамадзяне „маніўшыся“ увайсьці ў прэзыдіюм Бацькаўскага Камітэту.

Не праз „ўзрыў“ тут ідзе справа, а пра выэлімінаваньне шкодных уплываў на вучнёўскую моладзь, чаго відаць так баіцца „Белар. Звон“ са сваімі запраўднымі рэдактарамі.

### Лекцыі

У нядзелю 8 лістапада г.г. гр. Ф. Акінчыц распачаў сэрыю дакладаў на тэму „Кірункі беларускай палітычнай думкі“.

У першым, уступнага характару дакладзе, былі разгледжаны прычыны „ідэолёгічнага хаосу“ у беларускім грамадзянстве.

Пра наступныя даклады (якія будуць адбывацца на Квашэльнай вул. д. № 23 кв. 11) — падасцца да ведама пры дапамозе абвестак у беларускіх кнігарнях.

## УСЯЧЫНА

### СЬМЕРЦЬ ЭДІСОНА

18-га Кастрычніка г. г. у Паўночнай Амэрыцы памёр Тамаш Эдісон, пражыўшы 84 гады.

Яшчэ будучы сямігадовым хлапцом, Эдісон зарабляў на жыцьцё прадаючы газэты, а пазьней залажыў сваю газэту.

Ад самай ранняй моладасьці ён выказваў вялікае зацікаўленьне да навуковых прац, асабліва з галіны электратэхнікі.

Першым вынаходам Эдісона быў тэлеграфічны аўтамат, які і быў уведзены на амэрыканскіх тэлеграфах.

Ад 1868 г., калі Эдісону было толькі 21 год, ён пачаў сыстэматычную навуковую працу, абдараючы людзкасьць што раз то новымі вынаходамі.

У працягу свайго жыцьця ён атрымаў аж 1300 патэнтаў на вынаходы, якімі карыстаецца ўвесь сьвет і да сёньняшняга дня.

Рэдка калі родзіцца такі гэніяльны чалавак, якім быў Т. Эдісон.

### ПАЛІТЫЧНЫ ТЭРОР У НЯМЕЧЧЫНЕ

Нямецкая статыстыка паказвае, што за час ад 1. студзеня 1923 г. і да 31 ліпня 1931 г. пала ахвярамі палітычнага тэрору каля 457 чал. забітымі і 1154 цяжка раненымі.

З гэтай колькасьці аказалася забітымі камуністаў—323 чал. і 750 раненых, сярод гітлераўцаў забітых 86 і 257 цяжка раненых.

Сярод рэспубліканцаў—34 забітых і 110 раненых і нарэшце ўрадоўцаў (пераважна паліцэйскіх)—14 чал. забітых і 53 раненых.

Вось у якіх цыфрах выяўляецца ў Нямеччыне палітычная барацьба, якая што год прыймае ўсё вастрэйшыя і большкрывавыя формы.

## НАША ПОШТА

**Смаргонь. М. Дурэйко.** Артыкул Ваш атрымалі і друкуем у гэтым № Сьпісак прыхільнікаў нашай газэты, які Вамі прысланы—выкарыстаем. Пастарайцеся арганізаваць некалькі пунктаў у павеце, дзе-б прадавалася нашая газэта.

**Бр. Даніловічу.** Ашмян. пав. Прыемна было прачытаць вашае пісмо, бачым, што нашая газэта можа прынесьці карысьць сялянству.

Пачку газэтаў выслалі. Пастарайцеся арганізаваць продажу ў торговых днях.

**Стоўпцы. Дабр. Т-ву.** Пачку газэтаў выслалі.



Рэд.-Выд. Ф. АКІНЧЫЦ

Вільня, Друкарня У. Знамяроўскага, Квашэльная 23.

III

Hołas Prawdy (Wilno)

N. ZESZ. 5 z dn. 15. XI 193/ r

jest ostatnim numerem wydawnictwa.

Informacja otrzymana z C. Star. dn. 15. IV-32. Nr. 1147/32

/Ob. tytuł powyższy w aktach Bibljoteki Narodowej Rok 193 Teka C4b i C3b. Odpowiedzi na reklamację czasopism/.

LS.